*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*



# Слонімскі край



2017, № 3(13). Сакавік.


## Жыхары вёскі Хадзявічы на старых фотаздымках



У хатнім прыватным архіве захоўваю шэраг фотаздымкаў сваіх землякоў — жыхароў вёскі Хадзявічы Слонімскага павета першай паловы XX стагоддзя. На іх адлюстраваны мае аднавяскоўцы, кожны з іх меў лапік уласнай зямлі, з ранку да вечара вяскоўцы працавалі на ёй, каб жыць па-людску.

*Працяг на ст. 4*

## Скульптару Івану Міско споўнілася 85 гадоў

Ураджэнец Чамяроў жыве ў Мінску. Ён — вядомы скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў і народны мастак Беларусі. Галоўнай тэмай творчасці Івана Якімавіча Міско з’яўляецца касманаўтыка і касманаўты. З 85-годдзем нашага земляка павіншаваў кіраўнік дзяржавы.

Скульптар працуе над помнікам Льву Сапегу, які мясцовыя ўлады мяркуюць усталяваць у Слоніме. На здымку Віталя Гіля з газеты “СБ. Беларусь сегодня”, зробленым у майстэрні, можна пабачыць, як гэты помнік можа выглядаць.



ЮБІЛЕЙ

# Анатолю Ліхацэвічу — 70



21 сакавіка спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, доктара тэхнічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, члена-карэспандэнта Акадэміі аграрных навук Беларусі Анатоля Ліхацэвіча.

Ён нарадзіўся 21 сакавіка 1947 года ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. Пасля заканчэння сямігодкі, вучыўся ў Пінскім гідрамеліяратыўным тэхнікуме. Працаваць пачаў майстрам Галынкаўскага ўчастка будаўніча-мантажнага ўпраўлення. Потым Ліхацэвіч працаваў інжынерам Ашмянскага міжраённага ўпраўлення асушальных сістэм. У 1975 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

З 1997 года Анатоль Ліхацэвіч узначальваў Інстытут меліярацыі Нацыянальнай акадэміі навук, цяпер працуе загадчыкам лабараторыі ў гэтай навуковай установе. Абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Даследаванне рэжымаў дажджавання і дробнадысперснага ўвільгатнення сельскагаспадарчых культур у беларускім Палессі". А доктарская дысертацыя была прысвечана абгрунтаванням разліковай мадэлі рэжыма арашэння шматгадовых траў і агароднінных культур ва ўмовах Беларусі.

Анатоль Ліхацэвіч з'яўляецца аўтарам больш за 300 навуковых прац, у тым ліку 8 манаграфій і 4 падручнікаў, мае 11 патэнтаў і пасведчанняў на вынаходніцтвы.

***Сяргей Чыгрын***

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Пра знішчанае гарадзішча Турэц



У 6 кіламетрах на поўдзень ад Слоніма справа ад дарогі на Жыровічы была гара, якую называлі Турэцкай ці Турэц. Вядомы савецкі археолаг Фрыда Гурэвіч засведчыла, што там было гарадзішча-сховішча і датавала яго V стагоддзем нашай эры. Археалагічную разведку на Турцы ў першай палове 1960-х гадоў праводзіў Васіль Супрун. У 350 метрах на ўсход ад гары на беразе Шчары ён выявіў сляды пасялення эпохі бронзы.

На жаль гара Турэц не была пад аховай дзяржавы ды паступова знішчалася яшчэ ў 1960-1970-я гады. Слонімскі краязнаўца і археолаг Ігар Падгарадзецкі мяркуе, што канчаткова гару раскапалі ў пачатку 1990-х гадоў, калі ў Слоніме будаваўся мікрараён "Энка". "Пясок там бралі і раней, але толькі трохі, знізу... Быў цудоўны від з гэтае гары на пойму ракі", — успамінае Падгарадзецкі.

***СЁ***

*Фота Васіля Супруна, зробленае ў 1960-я гады.*

ПОШТА

# Падтрымліваю прапанову аб увекавечванні памяці генерала Уласіка

**Такіх генералаў не ўшаноўваюць**

У Слонімскім райвыканкаме нядаўна адбылося пасяджэнне прэзідыума Слонімскага раённага аб'яднання прафсаюзаў і раённага аб'яднання ветэранаў. Падчас абмеркавання планаў на 2017 год узнік шэраг прапаноў: з мэтай узмацнення грамадска-патрыятычнага выхавання зрабіць музей пад адкрытым небам — партызанскі лагер каля вёскі Заводны Лес, а таксама заняцца рэканструкцыяй хаты "легендарнага" генерала Мікалая Уласіка ў вёсцы



Негатыўнае ўражанне ў мяне выклікала публікацыя з № 2(12) "СК" пад назвай "Такіх генералаў не ўшаноўваюць". Канешне, паважаны мною аўтар публікацыі, Сяргей Чыгрын, мае права на сваё меркаванне на гэты конт. Тым не менш хачу выказаць і сваё меркаванне.

Як бачна з публікацыі, Мікалай Уласік нарадзіўся ў простай сялянскай сям"і, адукацыю атрымаў невялікую. Аднак даслужыўся да высокіх дзяржаўных пасад, да генеральскага звання, служыў у ахове Сталіна. Ці не самародак гэта?

Ён не падпісваў расстрэльных спісаў, ды і не мог гэта рабіць. Дык у яго быў іншы клопат — ахоўваць першую асобу краіны. Гэта што, злачынства?

А наконт характарыстыкі Святланы Алілуевай. Можа яна бачыла яго толькі здалёк, ды і то пытанне. А з-за акіяну можна плявузгаць аб суайчынніках на карысць сваіх "гаспадароў". Прыкладам можа стаць і Сяргей Хрушчоў.

Як ураджэнец зямлі Слонімскай, цалкам падтрымліваю станоўчае вырашэнне раённых уладаў прапановы аб увекавечванні памяці генерала Уласіка — аб рэканструкцыі яго хаты ў вёсцы Бабынічы.

А калі шаноўны Сяргей Чыгрын вырашыць выдаць кнігу пра генерала Уласіка, я з задавальненнем, як і іншыя яго выданні, яе набуду.

***Міхаіл Саўко,***
*г. Барысаў*

# Плошча Сапегі ў Слоніме

Краязнаўца і археолаг Васіль Супрун меркаваў, што цяперашняя плошча Сапегі ў Слоніме ў сярэднявеччы магла называцца Вечавой, а пасля — Замкавай (паколькі на Замосці быў першы слонімскі замак). І што яна "пазней перайменаваная ў плошчу Льва Сапегі".[1] Але калі гэта адбылося, ён нічога не піша. Звестак пра тое, што плошча на Замосці так называлася ў часы Рэчы Паспалітай, няма. Безыменнай яна была і ў часы расійскай царскай улады. Прынамсі, на планах горада канца XVIII-XIX стагоддзяў плошча каля касцёла св. Андрэя ніяк не абазначана.




***Фота Аляксандра Ярша, 2015 г.***

Як удалося высветліць, упершыню плошча, названая ў гонар старосты слонімскага, канцлера вялікага літоўскага Льва Сапегі (1557 — 1633), з'явілася ў Слоніме восенню 1933 года. У той год было вырашана адсвяткаваць 400-я ўгодкі надання Слоніму магдэбургскага права, 300-я ўгодкі смерці Сапегі і 150-годдзе адкрыцця канала Агінскага. Спачатку збіраліся наладзіць свята летам, але ў выніку перанеслі на лістапад і сумясцілі з святкаваннем угодкаў здабыцця Польшчай незалежнасці. У кастрычніку плошча і Касцельная вуліца былі забрукаваныя, там зрабілі новыя ходнікі.[2]

11 лістапада 1933 года ў Народным доме (цяпер на яго месцы знаходзіцца тэатр) адбылося ўрачыстае пасяджэнне гарадскога савета. На ім дэпутат ("радны") Старастэцкі прапанаваў "перайменаванне пляцу пры вул. Касцельнай (пры касцёле парафіяльным) на пляц імя гетмана Сапегі". Гэтая прапанова была прынятая.[3] Як бачым, да таго часу плошча была бязыменнай. Праўда, гісторык Валяр'ян Харкевіч пісаў тады пра перайменаванне "пляцу Касцельнага на пляц Льва Сапегі".[4] Магчыма, што проста ў той плошчы не было афіцыйнай назвы. На плане Слоніма 1934 года плошча Льва Сапегі ўжо прысутнічае.




У савецкія часы плошча Сапегі стала называцца плошчай Максіма Горкага. І толькі пасля абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі 25 жніўня 1991 года пачаўся працэс перайменавання вуліц і плошчаў, які, на жаль, быў вельмі кволым. У верасні 1991 года гарадскі Савет народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб стварэнні камісіі з дэпутатаў і супрацоўнікаў краязнаўчага музея "для вывучэння пытання аб вяртанні гістарычных назваў вуліцам горада". Яна і прапанавала разгледзець пытанне аб перайменаванні плошчы Горкага ў плошчу Сапегі.[5] Аднак яшчэ і ў снежні рашэнне не было прынятае.[6] Толькі дзесьці ў пачатку 1992 года нарэшце плошчы вярнулі ранейшую назву. Тады ж вярнулі Ружанскую вуліцу (замест П. Лумумбы), Оперную (замест Ф. Энгельса). А вось Жыровіцкая, Татарская, Замкавая вуліцы ў Слоніме не з'явіліся, яны засталіся вуліцамі К. Маркса, Кірава і Камсамольскай.

***Сяргей Ёрш***

*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 37. А В. Караткевіч і А. Кулагін лічылі, што плошча сфармавалася толькі ў XVIII ст. Гл.: Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 44.*

*[2] Pożyteczne prace miejskie // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 288, 21 кастрычніка.*

*[3] Uroczystości Słonimskie // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 312, 15 лістапада.*

*[4] Charkiewicz W. W Słonimie // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 312, 15 лістапада.*

*[5] Ільін У. Камісія вырашыла так: некаторым вуліцам вярнуць старыя назвы // Слонімскі веснік, 1991, 12 верасня.*

*[6] Чыгрын С. Гістарычная памяць — не даніна модзе // Слонімскі веснік, 1991, № 139, 19 снежня.*

СЛОНІМШЧЫНА Ў XX СТАГОДДЗІ

# Жыхары вёскі Хадзявічы на старых фотаздымках

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Мае аднавяскоўцы, як і ўсе беларусы, наведвалі праваслаўныя і каталіцкія храмы, найчасцей яны хадзілі ў Сынковіцкую царкву, якая побач з вёскай, і ў Парэцкую царкву. Многія дабіраліся ў Слонім і ў Жыровічы.

Мае аднавяскоўцы мелі па 10-20 гектараў уласнай зямлі, свой лес, аралі поле, жалі жыта і саджалі маладзенькія дрэўцы. Яны выходзілі замуж і жаніліся, нараджалі і гадавалі дзяцей. Яны ездзілі на кірмашы і адзначалі Вялікдзень, Тройцу, Пятро, Міколу, Юр'е, Пакровы, Міхайла, Каляды… Мае аднавяскоўцы ніколі не любілі савецкай улады, не хацелі ісці ў калгасы. Мае землякі заўсёды хацелі вучыцца. Яны паступалі ў Віленскую беларускую гімназію, а Васіль Новік пасля гімназіі вучыўся і ў Віленскім універсітэце. Мае аднавяскоўцы праважалі на фронт сваіх дзяцей і мужоў, радаваліся сустрэчам, атрымлівалі "пахаронкі" і жылі пры розных акупантах.

Маіх аднавяскоўцаў арыштоўвалі і расстрэльвалі супрацоўнікі НКУС. Так быў арыштаваны і расстраляны ў Мінску 5 жніўня 1938 года фізік з Хадзявіч Мітрафан Тамільчык.

Мае аднавяскоўцы салілі агуркі, квасілі капусту, збіралі грыбы і ягады, курылі тытунь.

Мае аднавяскоўцы любілі і ўмелі адпачываць, спявалі беларускія народныя песні і жадалі адзін аднаму шчаслівай долі. А доля ў тых, хто жыў у першай палове XX стагоддзя, была няпростая. Выглядалі мае аднавяскоўцы 70-100 гадоў таму так, як на гэтых старых фотаздымках. Усе яны друкуюцца ўпершыню.

***Сяргей Чыгрын***



***Браты Жукі, пачатак XX стагоддзя.***



***Уладзімір Жук, Іван Важэйка, Пятро Важэйка і Мікалай Ігнатовіч (злева направа), 1920-я гады. Фота зроблена слонімскім фатографам Б. Вайнштэйнам.***



*Сёстры Агата і Юля Акулкі, 1930-я гады.*



*Юлія Акулка выходзіць замуж, 1930-я гады.*



*Кастусь Саванец (крайні справа) са сваімі аднавяскоўцамі. 1930-я гады.*




***Хадзявец Іван Акулка (справа) з сябрам у Порт-Артуры, 11 верасня 1946 года***

# Слонімская ваенная авіяцыйная школа пілотаў

Звесткі пра гэтую навучальную ўстанову, якая ў 1940 годзе знаходзілася ў нашым горадзе, давялося збіраць па ўспамінах, дакументах, асобных публікацыях. І хоць удалося высветліць далёка не ўсё, паспрабуем распавесці пра гісторыю школы і яе навучэнцаў.

Слонімская ваенная авіяцыйная школа пілотаў была створана загадам наркама абароны СССР маршала К. Варашылава "Аб падрыхтоўцы лётна-тэхнічных кадраў ВПС Чырвонай Арміі ў 1940 годзе" ад 14 сакавіка 1940-га. Яе мусілі сфармаваць да 1 траўня, у школе павінны былі рыхтаваць пілотаў на адну эскадрыллю бамбардзіроўшчыкаў.[1] У Заходняй Беларусі ў той час школа ў Слоніме была адзінай. Адначасова іх стварылі ва Урэччы (Слуцкі раён), Барысаве і Пухавічах. У Мінску дзейнічала сярэдняя спецшкола Ваенна-паветраных сілаў.[2]

Ёсць меркаванне, што слонімская школа ад пачатку базавалася ў Пухавічах і толькі ў верасні 1940-га передыслакавалася ў Слонім.[3] Але гэта супярэчыць вядомым нам успамінам курсантаў, якія пішуць пра Слонім і не згадваюць Пухавічы. У тым жа загадзе Варашылава адзначаецца, што школу ваенных пілотаў у Пухавічах мусілі стварыць у красавіку "як часовае мерапрыемства". Зусім магчыма, што пазней адтуль у Слонім, дзе школа не была "часовай", перавялі групу курсантаў ці інструктараў.

У траўні 1940 года ваенная авіяцыйная школа пілотаў у Слоніме ўжо павінна была пачаць дзейнічаць. Аднак узніклі праблемы з наборам навучэнцаў. Маладыя людзі мусілі мець вопыт навучання ў аэраклубах, якіх у БССР было мала. Вось і прыслалі вялікую групу хлопцаў аж з Расіі (ім было не больш за 25 гадоў). Паводле ўспамінаў



*Бамбардзіроўшчык СБ. Фота: ru-history.livejournal.com*

Уладзіміра Тастаноўскага, другі вучэбны атрад першай вучэбнай эскадрыллі ўкамплектавалі студэнтамі 1-га і 2-га курсаў ВНУ Масквы, якія раней займаліся ў аэраклубах. Той жа Тастаноўскі прыехаў у Слонім і пачаў навучацца толькі ў ліпені 1940 года.[4]



*Самалёт Р-5. Фота: ru-history.livejournal.com*

А вось што ўспамінаў яшчэ адзін масквіч Іван Канавалаў: "Мне прапанавалі пайсці вучыцца ў бамбардзіровачную лётную вучэльню, якая была арганізаваная ў горадзе Слонім... У Слоніме нас пасялілі ў былых стайнях. Мы самі вычысцілі іх ад гною, паставілі тапчаны, набілі матрацы і падушкі сенам. Электрычнасць была толькі ў сталоўцы, дзе нам рыхтавалі сняданак, абед і вячэру... Толькі ў вучэльні я першы раз наеўся ўволю, паколькі кармілі па лётнай курсанцкай норме — масла, мяса, гарбата".[5]

На жаль, невядома, дзе ж знаходзіліся тыя стайні. Не выключана, што каля былых польскіх казармаў па Чырвонаармейскай вуліцы (былой вуліцы 3 Мая).

Навучанне ў школе працягвалася 11-12 месяцаў (аднак з сакавіка 1941-га гэты тэрмін быў скарочаны да 9 месяцаў). Пачыналася яно з тэорыі. Паводле плану падрыхтоўкі, курсанты вывучалі канструкцыю самалётаў, матор, тэорыю палётаў, праходзілі штурманскую падрыхтоўку і іншыя дысцыпліны. Асобна ішла падрыхтоўка стралкоў-радыстаў.

Ужо праз некалькі месяцаў курсанты, якія паспяхова здалі залікі па тэорыі, маглі пачынаць палёты.[6] Адзіны аэрадром, на якім яны маглі займацца практычнымі заняткамі, знаходзіўся каля Дзераўянчыц (быў пабудаваны яшчэ палякамі[7]). Планавалася, што будучыя лётчыкі пачнуць займацца на лёгкіх самалётах У-2, а пасля будуць засвойваць хуткасны бамбардзіроўшчык СБ і разведчык Р-5. Дарэчы, бамбардзіроўшчыкі СБ на той час ужо састарэлі, яны кепска сябе праявілі падчас савецка-фінскай вайны.[8]

Ёсць звесткі, што ўжо ў 1940 годзе "лётную школу" ў Слоніме скончыў і стаў штурманам Васіль Расоўскі (1920 — 1995). [9] Каб спраўдзіць, ці сапраўды ўжо ў Слоніме былі выпускнікі школы, трэба правесці архіўныя пошукі.

У канцы восені ці нават у снежні 1940 года Слонімскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў рэарганізавалі і перавялі ў Паставы (тады гэта была Вілейская вобласць). Якія былі прычыны? Магчыма, незадавольвалі ўмовы, у якіх жылі і навучаліся курсанты. Нагадаем, што жыць ім даводзілася ў былых стайнях, а пачыналася зіма. Іван Канавалаў успамінае, што ў Паставах яны "размясціліся ў казармах былой польскай кавалерыйскай часткі". [10] З іншага боку, на аэрадроме ў Дзераўянчыцах было запланаванае буйное будаўніцтва, а па школьнай праграме трэба было арганізаваць лётную практыку. Магчыма, былі і іншыя меркаванні.

Вядома, што школа называлася "Слонімскай" да лютага 1941 года, калі яе афіцыйна перайменавалі ў "Пастаўскую". [11] Адзін з яе аэрадромаў знаходзіўся каля вёскі Міхалішкі Астравецкага раёна. 22 чэрвеня 1941 года нямецкая авіяцыя нанесла па ім масіраваны ўдар, былі знішчаныя ці пашкоджаныя амаль усе самалёты, загінулі 40-60 курсантаў з 200. Тыя, хто выжыў, былі вывезеныя ў савецкі тыл, у горад Чкалаў (цяпер — Арэнбург), дзе яны працягнулі навучанне ў мясцовай школе пілотаў.



***Аэрадром у Міхалішках пасля нямецкай бамбёжкі.***



***Уладзімір Тастаноўскі, здымак 2008 г. Фота: sosluzhivtsi.ru***

Самы вядомы з навучэнцаў Слонімскай ваеннай авіяцыйнай школы пілотаў — гэта Уладзімір Тастаноўскі (1922 — 2011), які даслужыўся да звання генерал-маёра авіяцыі. Ён не забываўся пра паўгода, якія правёў у Слоніме, згадваў наш горад у сваіх успамінах.

***Сяргей Ёрш***

*[1] Приказы народного комиссара обороны СССР. 1937 — 21 июня 1941 г. Т. 13. — Москва, 1994. С. 126-127.*

*[2] Лютко С., Шатько В. Военно-учебные заведения на территории Белорусской ССР в 1918-1941 гг. // Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук, 2015, № 3. С. 38.*

*[3] Стрельбицкий К. Недолгая история авиационных военных учебных заведений на территории Белорусской ССР // http://aircraft-museum.ucoz.ru/publ/aehrodromy_v_belarusi/nedolgaja_istorija_aviacionnykh_voennykh_uchebnykh_zavedenij_na_territorii_belorusskoj_ssr/3-1-0-59*

*[4] Иноземцев А. Неизвестный Тостановский // Новый мир (Курган), 2016, № 46, 21 чэрвеня.*

*[5] Я дрался на Ил-2. — Москва, 2005; http://militera.lib.ru/memo/russian/drabkin1/12.html*

*[6] http://ru-history.livejournal.com/4595446.html*

*[7] Камітэт LOPP (Лігі паветранай і супрацьгазавай абароны) Навагрудскага ваяводства ў 1929 годзе купіў у маёнтка Дзераўянчыцы 54 гектары зямлі менавіта для пабудовы аэрадрома. Гл.: Zycie Nowogródzkie, 1929, № 280, 11 кастрычніка.*

*[8] Качук Н. Небо Коккинаки // СБ. Беларусь сегодня, 2017, № 38, 24 лютага.*

*[9]http://project.orenlib.ru/litmap/index.php?dn=person&to=avtor&mid=1&id=169*

*[10] http://militera.lib.ru/memo/russian/drabkin1/12.html*

*[11] Новый мир, 2016, № 46, 21 чэрвеня.*

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Невядомы аўтограф для Эльміры Стаброўскай



Л. В. АЛЕКСЕЕВ

БЕЛОРУССКАЯ АРХЕОЛОГИЯ И ИСТОРИЧЕСКОЕ КРАЕВЕДЕНИЕ ВО ВТОРОЙ ПОЛОВИНЕ XIX – НАЧАЛЕ XX в. [1]

Реформаторская деятельность Александра II начала его царствования продолжалась недолго. Ссылкой Н. Г. Чернышевского на каторгу (1862), подавлением польского восстания 1863 г. и разгромом «Земли и воли» (1864—1866) в России открылся период нового террора, закончивший

У сваім хатнім архіве адшукаў адно малавядомае даследчыкам выданне — гэта асобны адбітак Акадэміі Навук СССР "Советская археология" (Масква, 1968, № 3). Адбітак складаецца толькі з аднаго матэрыялу вядомага на той час савецкага гісторыка і археолага, доктара гістарычных навук, заснавальніка даследаванняў тапаграфіі старажытнага Віцебска Леаніда Аляксеева (1921 — 2008). Артыкул называецца "Беларуская археалогія і гістарычнае краязнаўства ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзяў".

У гэтым матэрыяле Аляксееў прыгадвае і нашага земляка, заснавальніка Слонімскага краязнаўчага му-



*Леанід Аляксееў*

зея Язэпа Стаброўскага (1870 — 1968). Гэты абзац у перакладзе на беларускую мову гучыць наступным чынам: "Распавядаючы пра пачатак нашага стагоддзя, нельга не прыгадаць імя нядаўна памерлага слонімскага археолага і краязнаўца І. І. Стаброўскага, першая археалагічная праца якога пабачыла свет у 1899 годзе. З гэтага часу І. І. Стаброўскі з захапленнем стаў займацца гісторыяй і археалогіяй краю, праводзячы шматлікія археалагічныя раскопкі ў Гродзенскай і суседніх губернях".

На адной старонцы адбітка змешчаны партрэт Стаброўскага, кароценькая яго біяграфія і тое, што Язэп Стаброўскі ў "Гістарычным весніку" (СПб, 1899, сакавік. С.1104-1105) надрукаваў свой першы матэрыял на рускай мове "К вопросу об ископаемых стеклянных шарах".

Але не толькі гэта цікава. А яшчэ тое, што на першай старонцы адбітка, перад пачаткам матэрыяла, аўтар яго, Леанід Аляксееў, пакінуў аўтограф жонцы Язэпа Стаброўскага Эльміры Стаброўскай: "Глыбокапаважанай Эльміры Магмедаўне Стаброўскай на памяць ад аўтара. 7.IX.1976. Слонім".

Аказваецца, гісторык Леанід Аляксееў у пачатку верасня 1976 года наведаў Слонім, гасціў у хаце



*Эльміра Стаброўская*

Стаброўскіх на Камсамольскай вуліцы, дзе і пакінуў гэты асобны адбітак з аўтографам для Эльміры Стаброўскай.

***Сяргей Чыгрын***

*Фотаздымкі з архіву аўтара.*

# Зноў пра першы слонімскі замак

З'явіліся новыя прыхільнікі версіі, што першы замак у Слоніме знаходзіўся на Замосці ў раёне плошчы Сапегі. Як вядома, гэтую тэорыю яшчэ ў міжваенны час прапанаваў археолаг і краязнаўца Язэп Стаброўскі. Яе развіў Васіль Супрун. Асноўныя аргументы былі наступныя: Замкавая плошча на Замосці (цяперашняя плошча Льва Сапегі) і Замкавая вуліца, якая ішла ад яе на левы бераг; наяўнасць там старажытных хрысціянскіх і яўрэйскіх могілак (не захаваліся), праваслаўнага храма і першага ў горадзе касцёла; наяўнасць на Замосці імаверна першай яўрэйскай калоніі; згадкі ў дакументах пра "замкавыя" землі ў згаданым раёне; знаходкі сярэднявечнага вайсковага рыштунку, якога не выявілі падчас раскопак на "Замчышчы" каля Опернай вуліцы. Супрун лічыў, што замак на левым беразе быў пабудаваны толькі ў XVI стагоддзі і называўся Верхнім, стары ж замак, на Замосці, называўся Ніжнім.[1]

У той жа час Васіль Супрун прызнаваў, што гэта ўскосныя доказы, а "канкрэтных доказаў выявіць не ўдалося". А прычына ў тым, што "Замчышча" на правым беразе было зрэзана ў 1880-я гады падчас будаўніцтва чыгункі.[2] У пасляваенныя часы выпадкова выявілі толькі частку абваднога рова.[3]

Намі прыводзіўся яшчэ адзін аргумент — сведчанне пра пераправу праз Шчару ў Слоніме з дакумента Тэўтонскага ордэна.[4] Васіль Герасімчык таксама прыводзіць шэраг аргументаў на карысць таго, што замак мог узнікнуць на правабярэжжы. Сярод іх — "даступнасць Замчышча да ракі". Ён лічыць, што ў выніку правядзення малога канала Агінскага ў Слоніме і выпрастасавання аднаго з рукавоў Шчары, рака наблізілася да "Замчышча" па цяперашняй Опернай вуліцы, а да таго праходзіла далей на ўсход ад яго.[5] Адпаведна "Замчышча" на правым беразе было бліжэй да ракі. Праўда, ёсць меркаванне, што Шчара ад пачатку была каля Опернай вуліцы ("каля падэшвы ўзвышанасці"), а пры пабудове канала яе "адсунулі" на ўсход.[6] У гэтым, як бачым, адзінага меркавання няма. Той жа Васіль Супрун у сваіх рэканструкцыях старажытнага Слоніма маляваў розныя варыянты ранейшага працякання ў горадзе Шчары.




*Першы слонімскі замак. Малюнак Васіля Супруна.*




*Малюнак Васіля Супруна.*

Нагадаем і тое, як В. Супрун вызначыў месца, дзе мог знаходзіцца замак на правым беразе Шчары. Ён заўважыў абрысы ўзвышанасці на плане Слоніма 1796 года.[7] Замак размяшчаўся "на паўночным мысе невялікага ўзвышша ў трыкутніку між правым берагам Шчары і яе безыменным прытокам, на месцы сучаснага чыгуначнага пераезда".[8]

Адносна нядаўна тэорыю Стаброўскага і Супруна падтрымалі польскія даследчыцы Марыя Каламайска-Саед і Катажына Манчэўска, якія грунтоўна вывучалі гісторыю каталіцкіх касцёлаў і кляштароў у Слоніме, працавалі з дакументамі, што захоўваюцца ў архівах Польшчы, Літвы, Расіі, Беларусі. У кнізе, прысвечанай слонімскім храмам, яны неаднаразова пра гэта пішуць.[9] Каламайска-Саед адзначае, што ў XVI ст. на левым беразе Слоніма вакол рынка, які быў у раёне цяперашняй Першамайскай вуліцы, "паводле заходнееўрапейскіх узораў" пачаў стварацца "новы горад". Кропкай адліку стаў перанос на заходні бераг Шчары рэзідэнцыі каралеўскага намесніка, слонімскага старосты Яна Радзівіла (адбылося гэта да 1520 года).[10] У наступныя дзесяцігоддзі левабярэжжа марудна набывала рысы новага цэнтра Слоніма. Побач з новым замкам староста слонімскі Леў Сапега да 1597 г. пабудаваў вялікі мураваны палац для правядзення генеральных сеймікаў ВКЛ (цяпер на гэтым месцы Оперная вуліца і парк). Яшчэ адным важным праектам Сапегі была пабудова мураванага парафіяльнага касцёла. Прынята лічыць, што гаворка ідзе пра яго пабудову на месцы драўлянага касцёла св. Андрэя на Замосці.[11] Але гэта не так.

Марыя Каламайска-Саед піша, што мураваны касцёл пачаў будавацца на левабярэжжы, на месцы цяперашняга Свята-Прэабражэнскага сабору, недалёка ад новага замку. Аднак будаўніцтва не паспелі скончыць ні Леў Сапега, ні яго сын Ян Станіслаў, а яшчэ адзін сын Казімір Леў Сапега перадаў зямлю, на якім пачалося будаўніцтва, канонікам латэранскім. Яны да 1650-га дабудавалі там касцёл, а пасля ўзвялі і кляштар. А парафіяльным храмам застаўся драўляны касцёл імя св. Андрэя на Замосці. Утварылася анамалія, адзначае польская даследчыца: раней касцёл быў у цэнтры горада, цяпер — на перыферыі.[12]

У кнізе "Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego" прыводзіцца дакумент, які захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Ён напісаны ў 1594 годзе і падпісаны каралём Жыгімонтам III, які ўхваляе будову Львом Сапегам новага касцёла. У ім, між іншым, дакладна апісваецца месца пабудовы новага касцёла: "З аднаго боку ідучы з рынку, каля замку да новазбудаванага моста па дарозе, з другога боку па вуліцы новай Замкавай, з трэцяга боку мяжуе з пляцам Антонія Масона на тым жа баку побач з пляцам Якуба Ашустова і Пятра Кухажова, з чацвёртага боку ад вуліцы Апанасаўскай".[13] Звяртае ўвагу назва вуліцы — "новая Замкавая". Можна меркаваць, што гэта часткова цяперашнія вуліцы Маякоўскага і Янкі Купалы. Новая Замкавая вуліца магла з'явіцца толькі каля новага замку. Старая ж Замкавая ішла з левабярэжжа на Замосце да месца, дзе раней быў стары замак.

У тым жа дакуменце згадваюцца дамы, якія "за мастом... нашыя продкі будавалі".[14] Падкрэсліваецца, што там, на Замосці, яшчэ раней будавалі і жылі продкі слонімцаў.

Аднак гэтыя і іншыя аргументы, якія прыводзяць і яшчэ будуць прыводзіць даследчыкі на карысць тэорыі знаходжання першага слонімскага замку на правабярэжжы, не паставяць кропку ў дыскусіях. Свае слова ў будучыні мусяць сказаць археолагі.

***Сяргей Ёрш***


*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 35-37.*

*[2] Тамсама. С. 37.*

*[3] Супрун В. Загадкі слонімскіх замкаў // Слонімскі край, 2017, № 1(11). С. 7.*

*[4] Ёрш С. Дзе быў старажытны слонімскі замак? // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 1-2.*

*[5] Герасімчык В. Адкуль пачаўся Слонім // Газета Слонімская, 2015, 8 красавіка. С. 21; Герасімчык В. Праблема лакалізацыі гістарычнага цэнтра Слоніма // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 4.*

*[6] Археалогія Беларусі. Т. 3. — Мінск: Беларуская навука, 2000. С. 314.*

*[7] Там памылкова напісана: 1795 г. Гл.: Дзеі над Шчарай. С. 37.*

*[8] Слонімскі край, 2017, № 1(11). С. 7.*

*[9] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013. С. 8, 12, 131. [10] Тамсама. С. 8.*

*[11] Габрусь Т., Герашчатава В. Слонімскі Андрэеўскі касцёл // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 674.*

*[12] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. С. 8.*

*[13] Тамсама. С. 49.*

*[14] Тамсама. С. 50.*

СТРАЧАНАЯ СПАДЧЫНА

# Пра дом, які знік у гістарычным цэнтры горада

Летась неяк незаўважна знік у Слоніме па вуліцы Чапаева двухпавярховы цагляны дом № 3, пабудаваны яшчэ пры царскіх уладах. Калі быць дакладным, то ў 1905 годзе. У ім ад пачатку знаходзілася акцызнае ўпраўленне, адсюль і назва вуліцы — Акцызная (яна існавала і пры польскіх уладах). Будынак перажыў Другую сусветную вайну, жахі знішчэння яўрэйскага гета. Але на другой сотні гадоў свайго існавання быў прызнаны аварыйным. Жыхароў выселілі, а дом яшчэ колькі гадоў стаяў пусты з забітымі дошкамі вокнамі.

У траўні 2016-га зрабіў некалькі здымкаў дома па Чапаева, 3. Тады і не мог падумаць, што яго так хутка разбураць. Помнікам архітэктуры ён не быў, але быў часцінкай таго старога Слоніма, якім яшчэ цікавяцца турысты. Ім можна было распавесці гісторыю дома і вуліцы, на якім ён стаяў.* Цяпер на тым месцы нічога няма...

***СЁ***

**Гл. наступную публікацыю: Прокофьев И. Чапаев и его улица // Слонімскі веснік, 2017, № 14, 4 лютага. С. 8.*

**Замовы на атрыманне электроннай версіі “СК” дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com**








*Гэты здымак Сяргей Чыгрын зрабіў у лютым 2017-га.*

# Цікавыя знаходкі на Слонімшчыне ў 1933 годзе

У ліпені 1933 года ў Жыровічах рамантавалі дарогу. Рабочыя, якія капалі зямлю, натрапілі на гліняную пасудзіну. Яе разбілі, пасыпаліся манеты... Іх прысутныя хутка падзялілі. Пагалоска пра знаходку пайшла па мястэчку. Даведалася пра яе жыровіцкая паліцыя. Рабочых пачалі дапытваць і патрабаваць вярнуць знойдзены скарб. У выніку паліцыянты адабралі 72 медныя манеты. Яны паходзілі з XVII стагоддзя, на некаторых можна было пабачыць дату: 1661 год. Скарб быў перасланы ў Слонім, у павятовае староства. Яго маглі перадаць у краязнаўчы музей.





У тым жа ліпені 1933-га ў Слоніме працаваў Станіслаў Лорэнц*, гісторык, рэстаўратар помнікаў у Навагрудскім ваяводстве. На Гандлёвай плошчы (цяперашняй пл. Леніна) ў той час вяліся нейкія працы. Верагодна, мянялі брук. Гэта дало магчымасць правесці там археалагічныя раскопкі. Лорэнц знайшоў падмуркі былога касцёла св. Міхала (знесены расійскімі ўладамі ў сярэдзіне XIX ст.), ускрыліся і падзямеллі, якія ён збіраўся абследаваць разам з слонімскімі краязнаўцамі. На жаль, справаздачы пра тыя даследаванні пакуль знайсці не ўдалося.

Лорэнц абследаваў і тэрыторыю, дзе раней былі палац і парк Агінскага. Ён заявіў, што знайшоў “мураваную нішу, пабудаваную з ламанага камення, якая нагадвае паркавы грот”. Падобныя гроты імітавалі сапраўдныя, часам пячоры былі каля вадаёмаў. Знойдзены Лорэнцам аб’ект найхутчэй знаходзіўся каля “Замчышча” з боку цяперашняй Савецкай вуліцы. У часы Міхала Казіміра Агінскага там была сажалка. Мяркуем, што якраз гэтая ніша відаць на здымку 1931 года, які мы публікавалі ў мінулым нумары. Мясцовыя жыхары, якія выкарыстоўвалі збудаванне для гаспадарчых патрэбаў, не ведалі, якое было яго першапачатковае прызначэнне.

***СЁ***

**Больш пра яго гл. тут: Чыгрын С. Станіслаў Лорэнц падрыхтаваў унікальную кнігу пра Слонім // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 13.*

# У Слоніме ўпарадкавалі назвы вуліц

У канцы лютага на партале pravo.by было апублікаванае рашэнне Слонімскага раённага савета дэпутатаў “Аб перайменаванні некаторых элементаў вулічна-дарожнай сеткі горада Слоніма” (№ 133 ад 27 снежня 2016 года). У адпаведнасці з ім, цяпер назвы вуліц, завулкаў будзем пісаць аднастайна — і па-беларуску, і па-руску. Напрыклад, калі раней была вуліца “А. Міцкевіча”, дык цяпер толькі “Адама Міцкевіча”. У рашэнні згадваюцца 16 вуліц і 6 завулкаў. Змяшчаем гэты дакумент цалкам.



*Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 28.02.2017, 9/81377*

РЕШЕНИЕ СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ
27 декабря 2016 г. № 133

**О переименовании некоторых элементов улично-дорожной сети города Слонима**

На основании абзаца третьего статьи 12, пункта 4 статьи 16 Закона Республики Беларусь от 16 ноября 2010 года «О наименованиях географических объектов» Слонимский районный Совет депутатов РЕШИЛ:

1. Переименовать следующие элементы улично-дорожной сети города Слонима:

улицу «А.Король», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Га́нны Каро́ль», на русском языке – «А́нны Коро́ль»;

переулок «А.Король», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Га́нны Каро́ль», на русском языке – «А́нны Коро́ль»;

улицу «А.Мицкевича», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Ада́ма Міцке́віча», на русском языке – «Ада́ма Мицке́вича»;

улицу «В.Крайнего», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Ва́сі Кра́йняга», на русском языке – «Ва́си Кра́йнего»;

улицу «В.Хоружей», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Ве́ры Хару́жай», на русском языке – «Ве́ры Хору́жей»;

улицу «Веселая», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Вясёлая», на русском языке – «Весёлая»;

улицу «К.Давыдюк», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Кла́ры Давыдзю́к», на русском языке – «Кла́ры Давидю́к»;

улицу «К.Маркса», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Ка́рла Ма́ркса», на русском языке – «Ка́рла Ма́ркса»;

переулок «М.Богдановича», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Максі́ма Багдано́віча», на русском языке – «Макси́ма Богдано́вича»;

улицу «М.Горького», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Максі́ма Го́ркага», на русском языке – «Макси́ма Го́рького»;

улицу «М.Тореза», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Мары́са Таро́за», на русском языке – «Мори́са Торе́за»;

переулок «М.Тореза», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Мары́са Таро́за», на русском языке – «Мори́са Торе́за»;

улицу «Пеленицина», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Пелянíцына», на русском языке – «Пелени́цына»;

улицу «П.Морозова», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Па́ўліка Маро́зава», на русском языке – «Па́влика Моро́зова»;

переулок «Тополевый», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Тапалёвы», на русском языке – «Тополёвый»;

улицу «Тополевая», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Тапалёвая», на русском языке – «Тополёвая»;

улицу «Ф.Скорины», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Франці́ска Скары́ны», на русском языке – «Франци́ска Скори́ны»;

переулок «Ю.Ковалевского», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Ю́рыя Кавале́ўскага», на русском языке – «Ю́рия Ковале́вского»;

улицу «Ю.Ковалевского», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Ю́рыя Кавале́ўскага», на русском языке – «Ю́рия Ковале́вского»;

улицу «Я.Коласа», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Яку́ба Ко́ласа», на русском языке – «Яку́ба Ко́ласа»;

переулок «Я.Коласа», присвоив ему наименование на белорусском языке – «Яку́ба Ко́ласа», на русском языке – «Яку́ба Ко́ласа»;

улицу «Я.Купалы», присвоив ей наименование на белорусском языке – «Я́нкі Купа́лы», на русском языке – «Я́нки Купа́лы».

2. Обнародовать (опубликовать) настоящее решение в газете «Слонімскі веснік».

3. Настоящее решение вступает в силу после его официального опубликования.

**Председатель** **С.А.Рогозик**

УСПАМІНЫ

# Іван Бухвостаў — дырэктар Рышчыцкай МТС

Наш чытач з Мінска Аляксандр Іванавіч Бухвостаў даслаў у рэдакцыю ўспаміны пра свайго бацьку. Ён працаваў у 1950-я гады ў вёсцы Рышчыцы, быў дырэктарам мясцовай машынна-трактарнай станцыі. Пасля Іван Бухвостаў выкладаў у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме. А ўпачатку 1960-х назаўжды з'ехаў з нашага горада.



*Іван Бухвостаў*

Мой бацька, Іван Канстанцінавіч Бухвостаў, нарадзіўся 20 студзеня 1915 года ў горадзе Арле (Расія). Да вайны скончыў Маскоўскі аўтадарожны інстытут. Ваяваў у складзе чыгуначных войск, узнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі, медалямі. Пасля вайны бацька працаваў на прадпрыемствах чыгункі ў Літве, у Расіі. У пачатку 1950-х гадоў ён быў галоўным інжынерам дарожных майстэрняў у гарадскім пасёлку Кархоўка ў Новазыбкаўскім раёне ў Бранскай вобласці (цяпер ён у межах Новазыбкава).

У 1952 годзе бацьку прызначылі ва Упраўленне Беларускай чыгункі ў Мінск. У той час ён уступіў у камуністычную партыю. Якраз ЦК КПСС прыняў рашэнне накіраваць 30 тысяч членаў партыі на пад'ём сельскай гаспадаркі. Бацьку накіравалі ў Заходнюю Беларусь, у горад Слонім. Яго прызначылі галоўным інжынерам Рышчыцкай МТС. Наша сям'я пераехала ў Слонім у 1953-м. Дзяцей было двое: я і сястра Маргарыта. Маці, Ядвіга Паўлаўна Ярмаловіч, па нацыянальнасці была літоўкай. Доўгі час мы жылі на прыватных кватэрах, жылі сціпла. Я і сястра вучыліся ў СШ № 5. Гуляў у баскетбол, быў капітанам зборнай Слоніма.

Маці не працавала, а бацька ўвесь час быў на працы: вельмі рана з'язджаў і позна ўвечары прыязджаў. Час быў складаны і цяжкі. Неўзабаве бацьку прызначылі дырэктарам Рышчыцкай МТС. У жніво яму даводзілася працаваць суткамі. Ён быў выдатны спецыяліст, добры інжынер. У яго мелася шмат вынаходніцтваў, рацпрапаноў. Бацька цікавіўся ўсім, дапамагаў вырашаць цяжкія задачы па матэматыцы, фізіцы. Ён любіў спорт, асабліва футбол. Любіў прыроду, рыбалку. Але вольнага часу меў вельмі мала... Чалавек ён быў сумленны і мне здаецца, што цяпер такіх ужо няма. У бацькі на першым месцы заўсёды была праца, справа. У той час пастаянна ішлі рэарганізацыі. Здаецца, Рышчыцкую МТС аб'ядналі са Слонімскай. Бацька працягваў працаваць. А пасля машынна-трактарную станцыю ператварылі ў Сельгастэхніку. У бацькі ўзніклі нейкія складанасці з начальствам, з партыйнымі органамі. У выніку ён перайшоў на выкладчыцкую працу ў Жыровіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум. А ў 1962-м бацька вярнуўся на чыгунку, яго прызначылі начальнікам дарожных аўтарамонтных майстэрняў у Стаўбцах. Там ён і працаваў дзесьці да 1980 года, да пенсіі. Памёр у 1987-м, пахаваны ў Стаўбцах на гарадскіх могілках.

***Аляксандр Бухвостаў***



***Іван Бухвостаў распавядае школьнікам і навучэнцам пра працу Рышчыцкай МТС, паказвае тэхніку. Здымак 1950-х гадоў.***

# Падарожжа па Слонімшчыне восенню 1909 года

У 1909 годзе рускамоўная газета “Гродзенскія епархіяльныя ведамасці” ў некалькіх нумарах друкавала нарыс пра паездку на тэрыторыі цяперашніх Гродзенскай і Брэсцкай абласцей мітрапаліта Уладзіміра (Вячаслава Ціханіцкага, 1873 — 1959). Гэты ўраджэнец Расіі быў праваслаўным епіскапам Беластоцкім, а з чэрвеня 1907-га — вікарыем Гродзенскай епархіі. У 1914-м, пасля пачатку Першай сусветнай вайны, ён пераехаў у Слонім і жыў у нашым горадзе да канца лета 1915 года, калі эвакуіраваўся на ўсход. Верагодна, ён і вывез у Расію Жыровіцкую ікону Маці Божай, якую прывёз назад у 1922-м архімандрыт Ціхан Шарапаў.

Нас найперш цікавяць тыя часткі нарысу, якія прысвечаныя Слонімшчыне, а таксама шэрагу населеных пунктаў, што цяпер знаходзяцца ў суседніх раёнах, а раней уваходзілі ў Слонімскі павет (Косава, Сынковічы, Дзярэчын і г. д.). У гэтым нумары “СК” прыводзім частку нарысу ў перакладзе на беларускую мову, яна была апублікаваная ў № 50 “Гродзенскіх епархіяльных ведамасцяў”* Аўтарам нататак верагодна быў святар, які суправаджаў мітрапаліта. Яны вельмі падрабязныя, апісваюцца прырода, дарогі, населеныя пункты, храмы, мясцовыя жыхары, цытуюцца іх прамовы. Адначасова прысутнічае шмат антыкаталіцкай прапаганды, абвінавачванняў, часта неабгрунтаваных. Аўтар апісвае сітуацыю ў вёсцы Сялявічы, дзе жыхары масава пераходзілі з праваслаўя ў каталіцызм. Ён замоўчвае, што дзядоў і бацькоў гэтых людзей расійскія ўлады ў XIX стагоддзі гвалтам прымушалі пераходзіць з уніяцтва ў праваслаўе.**

***Генадзь Гурскі***



*Мітрапаліт Уладзімір. Фота: kalozha.by*

**Описание путешествия Преосвященнейшего Владимира, Епископа Белостокского, по обозрению церквей епархии за время с 21 сентября по 4 октября 1909 года // Гродненские епархиальные ведомости, 1909, № 50, 13 снежня. С. 601-618.*

***а. Антоні. Сялявічы // Да злучэньня (Альбярцін), 1933, № 9(21). Верасень.*

**Апісанне падарожжа Праасвяшчэннейшага Уладзіміра, Епіскапа Беластоцкага, па агляду цэркваў епархіі за час з 21 верасня па 4 кастрычніка 1909 года**

ГЛАВА III.

Малеч — Дзешкавічы

[...]

У 8 гадзін вечара [26 верасня] Праасвяшчэннейшы Уладыка прыбыў у Косава. Некалькі сустрэч і вітанняў... Каля валаснога праўлення вітаў Уладыку валасны старшына з хлебам-соллю. Далей вітаюць яўрэі, якія таксама паднеслі Уладыку хлеб-соль. У самой царкве прадстаўнік ад праваслаўнага насельніцтва мястэчка ў некалькіх словах вітае Уладыку з памысным прыбыццём і таксама падносіць хлеб-соль.

Дабраславіўшы хлеб-соль ад прыхаджан, Уладыка пайшоў у царкву. Вучаніцы жаночай царкоўна-прыхадской школы ў беленькіх сукенках пад кіраўніцтвам настаўніцы Чэснай, сталі ў два шэрагі, ішлі перад Уладыкай і кідалі яму пад ногі кветкі.



ГРОДНЕНСКІЯ ЕПАРХІАЛЬНЫЯ ВѢДОМОСТИ.

ОТДѢЛЪ НЕОФФИЦІАЛЬНЫЙ.

Описаніе путешествія Преосвященнѣйшаго Владиміра, Епископа Бѣлостокскаго, по обозрѣнію церквей епархіи за время съ 21 сентября по 4 октября 1909 года.

ГЛАВА III.

У храме Уладыку сустрэлі: благачынны, протаіерэй Кадлубоўскі, Слонімскі павятовы назіральнік, святар айцец Мікалай Аносаў, святар Іаан Вераксін, сяла Боркі святар Павел Макарэвіч, святар Булянскай царквы айцец Аляксандр Валкоўскі і заштатны святар Ануфрый Ступніцкі.

Святар Іаан Вераксін вітаў Уладыку кароткай прамовай, у якой адзначыў, што ў дні перажытых “свабод”* у прыходзе было некалькі выпадкаў пераходу ў каталіцтва.

**Маюцца на ўвазе падзеі Першай рускай рэвалюцыі 1905-1907 гадоў. Царскім маніфестам ад кастрычніка 1905-га абвяшчаліся грамадзянскія свабоды.*

[...]

Слова Уладыкі відавочна рабіла на слухачоў уражанне моцнае, глыбокае.

Пасля заканчэння наба-

жэнства Уладыка наведаў жаночую Касаўскую царкоўнапрыхадскую школу, правяраў веды навучэнцаў па Законе Божым і на малітоўную памяць даў усім дзяўчынкам па крыжыку. Настаўніца Чэсная атрымала ад Уладыкі адабрэнне.

У 2 гадзіны дня [27 верасня] Праасвяшчэннейшы Уладыка выехаў з Косава... Памешчыца Слізень з сяла Дзевяткавічы Слонімскага павета, каталічка, ласкава пазычыла для Уладыкі сваю карэту і выдатную чацвёрку шэрых коней. Варта адзначыць, што ў гэтай самай карэце і на тых жа конях аб’язджаў навакольныя паселішчы два гады таму каталіцкі епіскап Рооп*, калі аглядаў свае прыходы. Відавочна, што і католікі ўмеюць быць ласкавымі...

**Эдуард Рооп (1851 — 1939) — з 1903 года біскуп Віленскі. Быў чальцом Першай дзярждумы Расіі.*

Дарога ішла па апусцелых палях, ужо пасля жніва. Зрэдку на цёмнай раллі сустракаліся жанчыны, якія капалі бульбу. Калі карэта Праасвяшчэннага праязджала міма, яны спынялі працу, станавіліся на калені, укленчвалі перад Уладыкам, які іх блаславіў, і хрысціліся.

У 9 вярстах [каля 9,6 км] ад Косава сяло Альба.* На шырокім зялёным лужку царква, пабудаваная яшчэ ў 1790 г., але ў 1908 годзе капітальна адрамантаваная, намаганнямі і клопатамі прыхаджан.



***radzima.org***




**Вёска ў цяперашнім Івацэвіцкім раёне. Па некаторых звестках, драўляная царква была пабудаваная яшчэ ў канцы XVII ст. Храм захаваўся да нашых дзён.*

У 5 вярстах [у 5,3 км] ад Альбы праехалі невялікі каталіцкі маёнтак, “Вялікі астравок” — бедны хутарок, дзе ў адзін шэраг стаяць жалю вартыя халупы. Праваслаўныя насельнікі хутара ў колькасці некалькіх чалавек, сустрэлі і віталі Уладыку хлебам-соллю.

[Далей мітрапаліт Уладзімір наведаў вёску Варонічы, мястэчка Ружаны, дзе быў 27-28 верасня].

У 10 гадзін [28 верасня] раніцы Праасвяшчэнны выехаў з Ружанаў у накірунку да Дзярэчына.

Дарога ішла па добрай шашы, уздоўж якой высаджаныя старыя, стогадовыя бярозы. Па абодвух баках шашы, вёрст на восем [каля 8,5 км] — вялікі сасновы лес. Сустрэліся некалькі дзяўчат, якія ўкладвалі каменьчыкамі абочыны шашы. З глыбокай павагай падалі яны на калені і ўкленчылі перад Уладыкам. Далей мясцовасць адкрытая, узгорыстая. Пясчаная ралля, маладая ўскалось азімых, якія падымаюцца зялёнымі аксаміцістымі палосамі.

Параўняўшыся з вёскай Пераваловкі, прыстаў, які ехаў наперадзе, нечакана звярнуў з шашы і ўзяў напрамак на Пераваловкую царкву, як патлумачыў ён пазней — для скарачэння шляху. У Пераваловках, вядома, зусім не чакалі прыезду Архіпастыра, разлічваючы, што Праасвяшчэнны праедзе шасейнай дарогай, і таму, адносна сустрэчы не было зроблена ніякіх распараджэнняў. Царква аказалася зачыненай. І нічога не заставалася, як праехаць міма.

Гадзін каля 12 Праасвяшчэнны прыбыў у сяло Сялявічы, такое вядомае ў епархіі поспехамі каталіцкай прапаганды. Гады два таму сюды прыязджаў біскуп Рооп зацвярджаць адпаўшых ад праваслаўя новых дзяцей каталіцызму.

Едзем доўгай, вузкай вуліцай паселішча. Адчувалася адразу, што насельніцтва ахоплена веравызнаўчай смутай, што тут абвостраная барацьба веравызнанняў і страшэнная нянавісць католікаў да праваслаўных. Па ўсім было заўважна, што рука памагатых Рыма пакінула тут трывалыя і верныя сляды. З акна карэты можна было бачыць некаторых жанчын, якія не ўкленчылі на бласлаўленне Архіпастыра... Некалькі падлеткаў-хлопчыкаў, не здымаючы шапак, беглі за карэтай з двухсэнсоўнай, нядобрай усмешкай. Відавочна, гэта былі "дзеці каталіцызму".

Лічым цікавым прывесці тут некаторыя дадзеныя з гісторыі Сялявіцкага прыходу. Сялявіцкі храм пабудаваны ў 1789 г. Тады яшчэ ўся вёска была праваслаўнай. Але вось адзін з сялявіцкіх сялян Аўгуст Бубен пабыў на заробках у Вільні і вярнуўся адтуль зацятым католікам. У Сялявічах з яго прыходам пачалася самая актыўная прапаганда каталіцызму. Спакусілася да 32 сем'яў. Для аслаблення прапаганды Сялявіцкая царква, якая была прыпісаная да царквы Перавалоцкай, у 1897 годзе была пераўтворана ў прыхадскую, і ў Сялявічах быў адкрыты самастойны прыход. Адкрыццё прыходу некалькі аслабіла поспехі каталіцызму, але не спыніла хваляванняў.

Пераходы ў каталіцызм не спыняюцца і дагэтуль. Усяго спакусілася за апошнія гады да 440 чалавек. Яны шкодна ўплываюць на тых, што засталіся вернымі праваслаўю, намагаючыся знішчыць у іх любоў да царквы і павагу да пастыра, у чым збольшага маюць поспех, пасяліўшы сярод праваслаўных абыякавасць да веры і забыццё царкоўных звычаяў.

Пад'язджаем да царквы. Добра ўпрыгожаная зелянінай і сцягамі брама. Царква маленькая, бедная, патрабуе рамонту. Нізенькая старая званіца выглядае зусім беднай бабулькай.

У храме Уладыку сустрэлі: настаяцель царквы, святар Пётр Агіцкі і з сяла Мількавічы святар Дзікоўскі.

Святар Агіцкі прывітаў Уладыку кароткай прамовай:

"Вітаю цябе, Уладыка, як пераемніка благадаці апостальскай. Але сэрца смуткуе, што сярод паствы маёй ёсць перайшоўшыя ў рымска-каталіцкую веру. Усяго перайшло да 440 чалавек. Яны, праўда, самі адчуваюць цяпер цяжар свайго становішча і хацелі б вярнуцца ва ўлонне праваслаўнай царквы, але з-за пачуцця фальшывага сораму, не могуць гэтага зрабіць. Акрамя тых, хто перайшоў, сярод даручаных мне прыхаджан ёсць і іншыя, якія не парвалі сувязі з царквой, але абыякавыя да яе і да яе вучэння. І ты сам бачыш, Уладыка, як мала народу сустракае цябе. Але няхай будзе табе суцяшэннем, Уладыка, што ў пастве, Богам мне дадзенай, ёсць і верныя дзеці, якія моцна выконваюць запавет святой царквы і застаюцца ёй нязменнымі. Увайдзі, Праасвяшчэннейшы Уладыка, і памаліся пра ўмацаванне і зберажэнне малога статку Хрыстова".

Пасля звычайнай ліціі, Праасвяшчэннейшы Архіпастыр звярнуўся да прыхаджан са словам, у якім згадаў некаторыя рысы з жыцця святога дабравернага князя Аляксандра Неўскага, памяць якога ў гэты дзень святкавалася (28 верасня), пераконваў слухачоў не падаць духам і моцна берагчы святую веру праваслаўную.

[...]

Па выхадзе з храма, Уладыка наведаў Сялявіцкую царкоўна-прыхадскую школу, куды былі сабраныя навучэнцы з суседніх школ — вёскі Варонічы і сяла Мількавічы на чале з тымі, хто іх вучыць.

Тут першы раз падчас па-





дарожжа давялося сустрэць настаўніцу з Краснастоцкіх выхаванак.* У сціплай шэранькай сукенцы, у чорным фартуху, з белай хусткай замест галаўнога ўбору, яна рабіла вельмі прыемнае ўражанне сваёй сціпласцю і добрым выхаваннем.

**Відаць, маецца на ўвазе Краснастоцкі манастыр на Сакольшчыне. На 1909 год гэта была Гродзенская губерня, цяпер — тэрыторыя Польшчы.*

Са школы Уладыка наведаў дом айца настаяцеля, дзе быў сустрэты ласкавай і гасціннай матушкай, якая паднесла Праасвяшчэннаму букет кветак.

Праасвяшчэннаму і яго спадарожнікам прапанаваная была гарбата і пакуль вандроўнікі падмацоўваліся гарбатай, пеўчыя, пад кіраўніцтвам псаломшчыка Анацкага, які скончыў курсы пеўчых, вельмі стройна і замілавальна праспявалі некалькі кантаў з Богагласніка.

Пасля гарбаты Уладыка пасьпяшаўся развітацца з ветлівымі гаспадарамі.

Едзем далей. Дарога ідзе праселкам. Мясцовасць узгорыстая. На палях бязлюдна і сумна. Паўсюль аднастайны, панылы выгляд наступаючай восені. І само неба нейкае шэрае, туманнае. Здаецца, вось-вось пойдзе дробны халодны дождж.

У 2 гадзіны дня Уладыка прыехаў у сяло Азярніца, якое знаходзіцца ў 7 вярстах [у 7,4 км] ад Сялявічаў. У браме царкоўнай агароджы выдатная брама з кветак і зеляніны. Прадстаўнік ад прыхаджан вітае Уладыку хлебам-соллю. Уладыка ўваходзіць у храм, дзе яго вітае айцец настаяцель, святар Стэфан Кальвін. Пасля сустрэчы, Праасвяшчэнным здзейснены быў малебен заступніку храма, свяціцелю Мікалаю Цудатворцу, пры гэтым пасля малебну Уладыка сказаў слова пра жыццё свяціцеля-угодніка Божага.

З царквы Уладыка па звычаю наведаў дом айца настаяцеля. Ласкавая матушка, падносячы Уладыку хлеб-соль, прывітала яго кароткай, але вельмі цёплай прамовай: "Ваша Праасвяшчэнства, гаварыла яна, другі ўжо раз з радасцю і любоўю сустракаю Вас. Прашу ўвайсці ў мой дом і прыняўшы хлеб-соль, блаславіць мяне і маіх дзяцей, каб Гасподзь паслаў ім добрага здароўя. "Ис пола эти деспота"*!..

Які гаваркі край!.. Тут нават і матушкі — аратары!..

**У перакладзе з грэцкага: "На многія гады, Уладыка".*

*(Працяг у наступным нумары)*

***Пераклад і каментары Генадзя Гурскага***

# Як жыхары Чамяроў здавалі зброю партызанам



Былы савецкі партызан Яўсей (Шая) Шапсай, які нарадзіўся ў 1924 годзе ў Слоніме, у інтэрв'ю, змешчаным на сайце iremember.ru, распавёў пра часы нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў. Выглядае, што яго ўспаміны шчырыя, ён нічога не хавае, успамінае пра такія эпізоды, пра якія іншыя прамаўчалі б. Адказваючы на пытанне пра тое, якім чынам партызаны ўзбройваліся, Шапсай успамінае:

"Большасць партызан з 51-й групы прыйшлі са слонімскага гета у атрад са сваёй зброяй. У баях мы захоплівалі трафейную зброю... была яшчэ адна "крыніца забеспячэння" — збіралі зброю ў вёсках. Вось прыклад. Заходзім у вёску Чамяры, дакладна ведаем, што ў дамах схаваная зброя, сабраная ў пачатку вайны з палёў бітваў. Збіраем мужыкоў і прапануем дапамагчы нам у барацьбе з немцамі і добраахвотна аддаць схаваную па хатах зброю для партызанскага атрада. Усе мужыкі ў адзін голас нам заяўляюць, маўляў, нічога няма і ніколі не было. Тады партызаны даюць сялянам дваццаць хвілін на роздум і дадаюць, што калі пасля названага тэрміну зброі мы не атрымаем, то пастраляем усіх... Адразу прыносяць сем вінтовак і пісталет... А іншай "мовы" яны тады не хацелі разумець.

З другой паловы 1943 года шмат зброі нам прысылалі на самалётах з Масквы".

***Падрыхтаваў М. І.***

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Як вясковец з Сянькоўшчыны змагаўся з віленскім хірамантам

Жыхары вёсак Слонімшчыны ў 1920-я гады актыўна выпісвалі беларускія газеты з Вільні. Уважліва іх чыталі, нярэдка пісалі ў рэдакцыі водгукі на публікацыі. І іх друкавалі. 14 верасня 1927 года газета "Беларускі дзень" змясціла допіс свайго падпісчыка з вёскі Сянькоўшчына. Вось што ён пісаў (падаем з невялікімі праўкамі):

"Наш беларускі народ вельмі цёмны і забабонны. Ніякай работы не пачынае без забабонаў і не канчае яе без забабонаў, нікуды не выйдзе і не выедзе без забабонаў. І кожны паварот да хаты кончыцца забабонамі. Найбольш забабонным з'яўляецца праваслаўны беларус. Маюць забабоны і беларусы-каталікі, але далёка менш, бо ксяндзы ўсялякія забабоны праследуюць, а "бацюшкі" часта самі вераць у забабоны. Але нашто Вы, Пане


ЧАЛАВЕЧА!

НА ТВАРЫ ТВАІМ НАПІСАНЫ ТВОЙ ЛЁС!

Прышлі фатаграфію (сваю ці чужую), дапішы імя і прозьвішча, год, месяц і дату нарадзінаў (таго, чыя фатаграфія). Адтрымаеш навукова апрацованы аналіз характару, здольнасьцяў, шмат карысных астролёгічных парадаў (патрэбных у жыцьці), шчасьлівыя лічбы і... апісаньне важнейшых мамэнтаў з Твае будучыні.

*Аналіз высылаецца па адтрыманьні двух злотых (за граніцу 1 даляр)*

Фатаграфія застаецца ў мяне.

Хірамант А. Васілеўскі.

Wilno, ul. Połocka 4 m. 7.

Асабіста прымаю штодзень ад г. 12 да 8-у веч.

Рэдактар, пашыраеце забабоны, змяшчаючы ў сваім выданні "Беларускі Дзень" абвестку хіраманта на 11-й старонцы № 23 [ад 20 жніўня 1927-га]?

Кожны хірамант — гэта ашуканец, бо дарма выманьвае грошы ад нашага цёмнага брата-беларуса і ўзмацоўвае веру ў забабоны, а дапамагае яму Ваша газета. Грошы за гэту абвестку, гэта грошы нашага гаротнага беларуса-селяніна. Выкіньце гэту абвестку, яна пэўна выдрукавана без Вашага ведама і дазволу. Вашую газету я даю чытаць усім суседзям і чытаю ўсім тым, хто чытаць не ўмее.

*З вялікай пашанай В. З — к.*
*Вёска Сенькаўшчына,*
*Слонімск[ага] павету".*

Рэдакцыя выбачалася перад сваім чытачом, пагадзілася з яго аргументамі. "Абвестка аб хіраманце Васілеўскім сапраўды была змешчана Адміністрацыяй без ведама Рэдакцыі. Цяпер гэтая абвестка выкідаецца", — напісана ў каментары "Ад Рэдакцыі".

Што да Антона Васілеўскага (1891 — 1984), дык ён пражыў доўгае жыццё. Вядомы, як беларускі пісьменнік, а не хірамант. У пасляваенны час жыў у Польшчы, друкаваўся ў беларускай газеце "Ніва" ў Беластоку.

***С. Ёрш***

# Сельскагаспадарчая школа ў Жыровічах

У 1924-1939 гадах у Жыровічах дзейнічала дзяржаўная сярэдняя школа сельскай і лясной гаспадаркі. Пра яе раней мы ўжо згадвалі ў адной з публікацый.* У гэтым нумары змяшчаем зацемку з віленскай газеты "Беларускі дзень" ад траўня 1927-га, якая прысвечана якраз гэтай навучальнай установе.




У мястэчку Жыровічах Слонімскага павету ўжо тры гады ёсць сярэдняя сельска-гаспадарчая школа з аддзеламі: земляробскім, лясным, паправы зямлі (меліярацыйны). Да школы гэнае прымаюць кожнага, хто скончыў 7-класную народную школу, альбо 4 класы гімназіі.

Вучыцца тут трэба 3 гады, а пасля адбыць гадавую практыку і здаць апошнія экзамены. У гэтым годзе скончыць школу блізка** 70 чалавек, з каторых на жаль няшмат жыхароў Навагрудскага ваяв[одства], але ўсё ж такі ёсць некалькі асоб з Слонімскага пав[ету], Баранавіцкага і іншых. Навука тут пастаўлена высока***, школа мае багатую біблятэку, лабараторыю, добрых прафесароў, якія вучаць, як трэба гаспадарыць.

На школьным фальварку вядзецца паказная гаспадарка з штучнымі гнаямі. Жыхары Жыровіч і ваколіцаў цікавяцца гэтымі палеткамі. Сведамасць беларуская на жаль тут мала пашырана. Аднак з дня на дзень яна пашыраецца і расце.

***С. Т.***

Беларускі дзень, 1927, № 12, 22 траўня. С. 11.

**Ёрш С. У Жыровічах і Слоніме выходзілі падручнікі па батаніцы // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 13.*

***Каля.*

****Гаворка ідзе пра высокі ўзровень навучання.*

СЛОНІМЦЫ У СВЕЦЕ

# Аркадзь Валадось у Парыжы атрымаў медаль Францыска Скарыны




16 лютага ў беларускім пасольстве ў Францыі прайшла цырымонія ўручэння дзяржаўнай узнагароды. Ураджэнец вёскі Какошчыцы Слонімскага раёна, французскі грамадзянін Аркадзь Валадось атрымаў з рук пасла Паўла Латушкі медаль Скарыны. Такім чынам быў адзначаны яго вялікі асабісты ўнёсак у прасоўванне беларускай культуры ў замежжы.




Валадось — вядомы беларускі і французскі оперны спявак. Скончыў Белдзяржфілармонію, Ленінградскую кансерваторыю, працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балету імя Кірава. З 1979-га, пасля жаніцьбы з французскай спявачкай, жыве ў Францыі. Аркадзь Валадось і ў замежжы займаўся сваёй любімай справай, рэалізоўваў свой талент, выступаў на вядучых оперных пляцоўках. Валадось — лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў.

У часы незалежнай Рэспублікі Беларусь наш зямляк прыклаў шмат намаганняў для наладжвання супрацоўніцтва нашай краіны і Францыі ў галіне культуры, заснаваў асацыяцыю “Абмен: Францыя — Беларусь”.

1 сакавіка Аркадзю Валадосю споўнілася 74 гады. Віншуем!

***Генадзь Гурскі***

АСОБА

# Уладзімір Ксяневіч

25 сакавіка адзначаецца Дзень Волі. У 1918 годзе ў Менску была абвешчана дзяржаўная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.



На жаль, яна не здолела стаць сапраўднай дзяржавай, была падзелена паміж больш моцнымі суседзямі. Аднак беларускія патрыёты працягвалі змагацца за БНР. Сярод іх быў і слонімец Уладзімір Ксяневіч.

Ён нарадзіўся 25 чэрвеня 1894 года ў Альбярціне. Яго бацька, Франц Людвігавіч, быў афіцэрам царскай рускай арміі. Уладзімір скончыў вайсковую вучэльню, ваяваў у Першую сусветную вайну. На радзіму вярнуўся ў 1919 годзе. А пасля была партызанская барацьба за незалежнасць Беларусі, слонімец стаў начальнікам галоўнага штаба арганізацыі “Зялёны Дуб”, не толькі камандаваў, але і асабіста ўдзельнічаў у баявых аперацыях супраць бальшавікоў. Сядзеў у польскіх турмах, пасля — у савецкіх. У 1925 годзе ў БССР яго асудзілі на смяротнае пакаранне, выканання прысуду чакаў амаль два гады, пакуль яму не паведамілі, што замянілі расстрэл на 10 гадоў турмы.

У 1930-я гады лёс закінуў Ксяневіча на Далёкі Усход. Там вясной 1939-га яго арыштаваў НКУС, ужо 4 ліпеня слонімца расстралялі. Ён быў рэабілітаваны ў 1991 годзе.

***ГГ***

**“Слонімскі край”** — краязнаўчае электроннае выданне.
Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года В. Герасімчыкам, С. Яршом і С. Чыгрыном. Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com